*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 33(367) | 26 ЖНІЎНЯ 1998 г.

## ТБМ выходзіць на вуліцы

14 жніўня Сакратарыят ТБМ імя Ф.Скарыны падаў заяву на правядзенне двух акцый у абарону беларускай мовы.

31 жніўня з 17.30 да 19.00 мае адбыцца мітынг на плошчы Якуба Коласа.

1 верасня ў гэты ж час будзе выстаўлены пікет у Міхайлаўскім завулку ад вул. Ленінградскай да плошчы Незалежнасці.

4 і 11 верасня на перакрыжаванні Партызанскага праспекта і вуліцы Цэнтральнай каля станцыі метро "Аўтазаводская" з 17.00 да 19.00 рада ТБМ Заводскага раёна г. Менска праводзіць запіс у ТБМ і падпіску на газету "Наша слова".

25 верасня аналагічная акцыя ізноў з 17.00 да 19.00 праводзіцца радай ТБМ Заводскага раёна на Партызанскім праспекце насупраць дома № 56.

## Як ні дзіўна, але шэрагі ТБМ растуць

І, як ні дзіўна, прырастаюць усходам. 12 жніўня прайшлі перарагістрацыю Маладзечанская аб'яднаная і Асіповіцкая аб'яднаная арганізацыі ТБМ.

23 ліпеня створана суполка на Беларускім металургічным заводзе ў Жлобіне. У суполцы 12 чалавек, а днямі ўзніклі тры суполкі ТБМ у мікрараёнах Жлобіна.

## Жыткавіцкае ТБМ

Жыткавіцкая раённая рада паведаміла ў Сакратарыят ТБМ вынікі перарэгістрацыі:

Жыткавіцкая гарадская арганізацыя — 21 чалавек.
Тураўская пасялковая — 19 чалавек.
Арганізацыі ТБМ у:
Азяранскай СШ — 5 чалавек.
Бялеўскай СШ — 21 дарослы і 32 вучні ст. класаў.
Ленінскай СШ — 5 чалавек.
Пірароўскай базавай школе — 7 чалавек.
Хільчыцкай СШ — 21 дарослы і 42 вучні ст. класаў.
Раённая рада ТБМ складаецца з 15 чалавек.

Сакратарыят ТБМ просіць усе тэратарыяльныя рады Беларусі падаць інфармацыю ў тым жа разрэзе.

## "Беларускія званы"

3 верасня а 16-ай гадзіне ў бібліятэцы Менскага аўтамабільнага завода па адрасу : г. Менск, вул. Мічурына - 5 пройдзе чарговае паседжанне паэтычнага згуртавання "Беларускія званы", якім кіруе паэт і бард Пётр Русаў.

## Непрыяцель Беларушчыны атрымаў вымову.

Стаўшы сумна вядомым на ўсю краіну сваім загадам па Наваполацкай ТЭЦ аб забароне выкарыстання на прадпрыемстве беларускай мовы, яе дырэктар В.Лебедзеў нядаўна атрымаў ад вышэй стаячага кіраўніцтва строгую вымову. І яшчэ лёгка выйшаў з сітуацыі, бо пры будаўніцтве комплексу будынкаў блока цэхаў рамонтнай вытворчасці выявіліся грубыя недахопы. Будаўніцтва вялося па праектна-сметнай дакументацыі, не прайшоўшай дзяржаўную экспертызу, падрадчыкамі завышаліся кошты матэрыялаў, іх паходжанне і памеры каэфіцыентаў. У выніку прамыя страты ТЭЦ ад пераплатаў перавысілі 4 мільярды рублёў. Прычына такой шчодрасці зусім відавочная, бо заснавальнікамі прыватных структур, якія вялі будаўніцтва, з'яўляліся бліжэйшыя родныя і блізкія шэрагу кіраўнічых работнікаў ТЭЦ. Акрамя дырэктара цеплацэнтралі яшчэ 15 службовых асоб прыцягнуты да розных мераў дысцыплінарнай і матэрыяльнай адказнасці. Аднак за кратамі за магчымыя падобныя правапарушэнні ў нас працягваюць трымаць толькі апазіцыйна настроеных дэпутатаў.

## "Пан Тадэвуш"


Капліца Рэйтанаў у Грушаўцы

Так называўся фэст праведзены 23 жніўня ў вёсцы Грушаўка Ляхавіцкага раёна. Фэст, прысвечаны 200-годдзю Адама Міцкевіча праводзіла гістарычнае таварыства "Тадэвуш Рэйтан", якім кіруе Міхась Турыянскі. Нагадаем нашым чытачам, што Тадэвуш Рэйтан - дэпутат Варшаўскага сойму 1773 года. У той час , калі ўсе паслы сойму ад Польшчы прагаласавалі за першы падзел Рэчы Паспалітай, два беларусы Рэйтан і Корсак сталі сцяной супраць гвалту. Рэйтана за гэта аб'явілі вар'ятам, закавалі ў кайданы і саслалі ў Грушаўку, дзе трымалі да смерці.

(Падрабязней пра вялікага беларуса Тадэвуша Рэйтана ў наступным нумары).

## Ізноў "РОКАШ"

У Менску пабачыў свет першы нумар газеты спартовага аддзелу "Маладога Фронту" "РОКАШ". Фармат А-4. Аб'ём 8 старонак. Наклад 199 асобнікаў. Рэдагуе газету Алесь Мішчанкоў.

Новы "РОКАШ" не мае ніякага дачынення да газеты "РОКАШ", якая выходзіла ў 1990-1992 гадах у Казахстане. Тады гэта была газета Прыазёрскай гарадской рады ТБМ імя Францішка Скарыны, другая ў гісторыі Беларусі газета ТБМ.

Выдаўцы старога "РОКАША" да выдаўцоў новага "РОКАША" ніякіх прэтэнзій не маюць і жадаюць "РОКАШУ" шчаслівай будучыні.

## ПАДПІСКА — 98 1000 рубеж узяты

Падпіска на газету "Наша слова" ў ліпені складала 883 асобнікі. У жніўні яна вырасла недзе на асобнікаў 20. А вось на верасень-снежань сакратарыят ТБМ дадаткова падпісаў 32 асобнікі на ўсе бібліятэкі Горыцкага раёна і 7 асобнікаў на ўсе бібліятэкі горада Мсціслаўля.

Суполка ТБМ ВЦ "Гроднаэнерга" стрымала слова і выпісала 39 асобнікаў "Нашага слова" на ўсе школы Гародні на апошнія чатыры месяцы 1998 года.

Лідская рада ТБМ заміж абяцаных 100 асобнікаў выпісала на верасень месяц 160 асобнікаў газеты для ўсіх школ, садкоў, устаноў культуры горада і раёна. Не абмінула нават стадыён. Такім чынам у верасні "Наша слова" будзе мець каля 1100 падпісчыкаў

Сакратарыят ТБМ просіць моцныя рады ТБМ падтрымаць гэтую ініцыятыву, а да слабейшых радаў просьба дасылаць запоўненыя падпісныя карткі ў рэдакцыю або сакратарыят. На картках трэба ўказаць толькі адрас, не ўказваючы года і месяцаў падпіскі. Сакратарыят ТБМ бачыць магчымасць аказання дапамогі рэгіянальным радам у падпісцы на газету "Наша слова" для школ і бібліятэк у агульным аб'ёме да 1500 асобнікаў.

## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

***Агляд і каментары Язэпа Палубяткі***

"Знішчаюцца нават беларуская культура, гісторыя і мова. Сённяшнія ўлады працягваюць практыку савецкіх часоў, практыку свядомага глуму над мовай і яе заду-шэння. У Менску, напрыклад, больш 53 працэнтаў дзяцей, што пачалі ў 1994 годзе (год заступлення на пасаду прэзідэнта Лукашэнкі) сваё навучанне на беларускай мове, былі пераведзены на расейскую мову навучання. У сталіцы толькі ў 10 працэнтах школаў выкладаюць на беларускай мове. Такая ж сітуацыя, калі не горшая, назіраецца па ўсёй Беларусі ..."

**А.Саннікаў, каардынатар па міжнародных сувязях Хартыі-97. Даклад на 50-й сесіі Падкамісіі ААН па папярэджанню дыскрымінацыі і абароне меншасцяў, 5 жніўня, — Жэнева."Народная воля" № 143 (495) 12 жніўня 1998г.**

*У апошні час у асяродку беларускай інтэлегенцыі павялічылася акрэсленнасць двух наступных накірункаў жыццядзейнасці законапаслухмянасць існуючым уладам і прыстасаванне ў асабіста-карысных мэтах да існуючых абставін і неабходнасцяў уласнага жыцця. Не абышла гэтая з'ява і Таварыства Беларускай мовы. Але ў адпаведнасці з першым напрамкам ад беларускай мовы хутка застануцца толькі фальклорныя ўспаміны для забавы замежных гасцей.*

***Аляксей Саламонаў***
***Пагоня 4.08.98г.***

Пачніце, шаноўны Аляксандр Рыгоравіч, размаўляць па-беларуску, на мове, на якой прымалі прэзідэнцкую прысягу, як хутка — упэўнены ў гэтым — вашы чыноўнікі і журналісты зашчабечуць на роднай мове, і ў нашай адукацыйнай сферы безуральныя (адносна мовы) працэсы зменяцца на праціглеглыя. І ніякіх дэкрэтаў не спатрэбіцца, каб родная мова ажыла, стала квітнець...

**М.Лісіцкі**
**"Народная воля" 14.08.98г.**





# І ЯШЧЭ ТРОХІ ПРА ПУШКІНА

"Наша слова" ў двух нумарах ( 1 і 8.07.1998г.) змясціла вялікі і грунтоўны артыкул А.Блінкоўскага "Ці мог А.Міцкевіч быць сябрам А.Пушкіна?" Мне хацелася б дадаць штонішто з таго, над чым наўрад ці задумваліся чытачы пушкінскіх твораў і ўсе тыя, хто "праходзіў" А.С.Пушкіна ў школе.

А на бязмежных абшарах былога Саюза вывучаць творчасць Пушкіна пачыналі з першага класа (у нашай рэспубліцы пры так званым двухмоўі і цяпер тое самае). Чыталіся, а то і завучваліся на памяць яго вершы, пасля вершаваныя казкі (дарэчы, цікавыя і зробленыя на высокім мастацкім узроўні), затым "праходзіліся" вялікія празаічныя творы ("Дубровский" і "Капитанская дочка"), трагедыя "Борис Годунов" і раман у вершах "Евгений Онегин". У кожным класе толькі і паўтаралася: Пушкін , Пушкін ... А яшчэ — шматлікія оперы, балеты, кінафільмы, зробленыя паводле яго твораў. Ды яшчэ назвы вуліц у гарадах ( і беларускіх у тым ліку), установы яго імя ... Вольна ці нявольна ствараўся своеасаблівы культ Пушкіна.

Калі сёння запытацца ў вучня ці дарослага чалавека, якіх ён ведае расейскіх пісьменнікаў, то ў адказ найперш пачуеш: "Пушкін". Яго прозвішча, можна сказаць, увайшло ў побыт, ператварылася з уласнага ў агульнае. Бадай, кожны чуў, а то і гаварыў: "А хто за цябе — Пушкін будзе рабіць?!" Кантралёр у тралейбусе на зайца можа сказаць: "А білет за цябе Пушкін купіць?" І ў літаратуры гэта знайшло адлюстраванне. У п'есе А.Дударава "Злом" чытаем: " — Ну што ў вочы свеціш? — Гэта ты мне? — Не, Пушкіну". Або ў аповесці Л.Калодзежнага "Пад халодным небам": " — Што дазваляеш сабе? — Я? — Не Пушкін жа".

Бясспрэчна, Пушкін — геніяльны паэт расейскага народа. Ён быў ужо і пры жыцці прызнаны сучаснікамі, як аўтар шматлікіх шэдэўраў мастацтва. Гэта стваральнік расейскай літаратурнай мовы і пачынальнік новай, рэалістычнай літаратуры, вялікі рэфарматар. Пушкін для расейскай культуры, мовы і літаратуры тое самае, што, скажам, Т.Шаўчэнка для ўкраінскай, а Я.Купала для беларускай.

Аднак наўрад ці можна гаварыць пра сусветную вядомасць Пушкіна, як гэта нярэдка пішуць у кнігах ці артыкулах. Яго добра ведаюць у краінах СНД, а ў далёкім замежжы яго вельмі мала хто ведае і чытае. Там з расейскіх пісьменнікаў найбольшай папулярнасцю карыстаюцца Л.Талстой, Ф.Дастаеўскі ды А.Салжаніцын. Як засведчана ў "Беларускай Савецкай Энцыклапедыі", Л.Талстой, паводле звестак ЮНЕСКА, займае адно з першых месцаў сярод пісьменнікаў па колькасці моў свету, на якія перакладзены яго творы. Яшчэ і такое супастаўленне: поўны збор твораў Пушкіна складае 10 тамоў, а Талстога — 90 тамоў. Але тым не менш у гэтай жа энцыклапедыі Л.Талстому прысвечана 2 старонкі, а Пушкіну — 4, партрэт Пушкіна займае цэлую старонку (уклейку глыбокага друку), а фатартрэт Талстога — пашпартнага памеру (тры на чатыры). Дзейнічае ўсё той жа культ Пушкіна.

Адзін з персанажаў аповесці В.Быкава "Абеліск" гаворыць, што цяпер "любы студэнт ці нават старшакласнік, толькі завядзі з ім гаворку пра Талстога ці там Дастаеўскага, адразу табе выпаліць усе іх хібы, памылкі і абмежаванні". У падручніках па расейскай літаратуры для сярэдняй і вышэйшай школы Леў Талстой падаецца як постаць, уся творчасць якога ў "кричащих противоречиях". З аднаго боку, гэта геніяльны мастак і мысліцель, "глыба", "матёрый человечище", а з другога — "помещик, юродствующий во Христе", "истеричный хлюпик", які гаворыць: "я не кушаю больше мяса и питаюсь теперь рисовыми котлетками". Розныя хібы і заблуджэнні вышукваюцца і ў творчасці Дастаеўскага, Тургенева, Ясеніна і інш. І толькі Пушкін як бы карыстаецца імунітэтам недатыкальнасці і ззяе, як сонейка. А між тым у яго творчасці ёсць нямала сапраўдных хібаў, якія стараюцца не заўважаць або сарамліва абыходзяць. А можа, і для тых, хто піша пра Пушкіна, гэта зусім не хібы, а ідэалогія, тоесная з іхняй.

Пра Пушкіна напісаны дзесяткі кніг, сотні артыкулаў. Але ніхто ні слова не гаворыць пра яго непахісныя вялікарасейскія імперскія перакананні.

Выключэнне складае хіба толькі адна праца. Яе аўтар Г.П.Фядотаў (1886 - 1951) — выдатны расейскі гісторык, філасоф культуры. У 1925 г. ён эміграваў з Савецкага Саюза, вёў выкладчыцкую дзейнасць у Парыжы, пасля ў ЗША. У 1947 г. апублікаваў у замежным расейскім выданні эсэ "Лёс імперый", перадрукаванае не так даўно маскоўскім часопісам "Знамя" (1992, №3 - 4). Аўтар характарызуе імперыю як дзяржаву, што экспансіяй выйшла за свае этнічныя, нацыянальныя межы, закранае шмат розных праблем, пераканаўча абгрунтоўвае непазбежнасць распаду СССР — апошняй сусветнай імперыі. Ёсць там і такія здзіўляльныя прадказанні пра лёс Расеі пасля развалу імперыі: яна "страціць данецкі вугаль, бакінскую нафту ... Велікаросія ды яшчэ з прыдачай Беларусі (напэўна) і Сібіры (яшчэ доўга) усё яшчэ агромністае цела, з вялізным насельніцтвам ..." Пушкіна аўтар называе "апошнім песняром імперыі", які шчыра верыў, што хутка ўсе народы Расеі, у тым ліку і нядаўна захопленыя ("и финн, и ныне дикий тунгус, и друг степей калмык"), будуць чытаць яго на-расейску, а "ўсе этнаграфічныя перажыткі зробяцца здабыткам музеяў і спецыяльных часопісаў".

У вершы "Памятник", які цытаваўся вышэй, ёсць і словы паэта пра тое, што ён у свой "жестокий век восславил Свободу". Але якую свабоду? Свабоду для каго? Паэт і ведаць не хоча, што не можа нацыя быць свабоднай, калі яна заняволівае іншыя нацыі. А гэта ж пры жыцці Пушкіна былі заваёваныя Фінляндыя, Бесарабія, Грузія, Арменія, Азербайджан, шматлікія народы Каўказа.

Паэт нічуць не сумняваўся, што расейцы выконваюць вялікую місію, цывілізуючы тубыльцаў — захопленыя "дзікія" народы. Ён быў добра знаёмы з П.Песцелем і падзяляў яго выказаныя на старонках "Русской Правды" погляды наконт таго, што абрусенне ўсіх іншародных плямёнаў будзе садзейнічаць "узвядзенню Расеі на вышэйшую ступень працвітання, велічы і магутнасці" і што "на цэлай прасторы расейскай дзяржавы" павінна быць "адна толькі мова расейская".

Ёсць у Пушкіна і выказванне пра мову. Удумаемся, як ён з шавіністычнай прапаведдзю сваёй нацыянальнай выключнасці гаворыць пра непараўнальную веліч расейскай мовы. Яна, маўляў, "как материал словесности, имеет неоспоримое превосходство перед всеми европейскими". Канешне, кожны цыган сваю кабылу хваліць. Але ж хіба можна гэтак прыніжаць іншыя мовы? Ні ў аднаго беларускага пісьменніка язык не павярнуўся б сказаць такое. Наш літаратар, журналіст, настаўнік цалкам салідарны з Францішкам Багушэвічам, які пісаў, што беларуская мова "такая людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая".

Ды, зрэшты, такое празмернае, але мэтанакіраванае праслаўленне "великого, могучего, правдивого и свободного русского языка" пачалося не з Пушкіна. Адзін з яго папярэднікаў, Ламаносаў, выказаўся, здаецца, не горш: "Карл Пятый, римский император, говаривал, что ишпанским языком с Богом, французским с друзьями, немецким с неприятелем, итальянским с женским полом говорить прилично. Но если бы он российскому языку был искусен, то, конечно, к тому присовокупил бы, что им со всеми оными говорить пристойно, ибо нашел бы в нем великолепие ишпанского, живость французского, крепость немецкого, нежность итальянского, сверх того богатую и сильную в изображениях краткость греческого и латинского языков".

Часта цытуюць радкі з верша "Он между нами жил", у якіх гаворыцца "о временах грядущих, когда народы, распри позабыв, в великую семью соединятся". Але, вядома ж, маецца на ўвазе сям'я са старэйшым братам на чале, пад эгідай расейцаў. У вершы "Клеветникам России" аўтар хоць і задае пытанні, але яны рытарычныя, не патрабуюць адказу: "Славянские ручьи сольются в русском море? Оно ль иссякнет? Вот вопрос". Ох, як і сёння мараць многія з "славянскіх сабораў" пра зліццё славянскіх ручайкоў у расейскім моры.

Пушкін з гонарам малюе вялікадзяржаўны вобраз сваёй неабсяжнай краіны-імперыі, якая распасціралася "от Перми до Тавриды, от финских скал до пламенной Кохиды, от потрясенного Кремля до стен недвижного Китая". Каўказскія яшчэ не захопленыя грамады гор — гэта "гнездо разбойничьих племен, черкасской вольности ограда". У паэме "Кавказский пленник" бачым праслаўленне заваёўніка: "Тебя я воспаю, герой, о Котляревский, бич Кавказа! Куда ни мчался ты грозой — твой ход, как черная зараза, губил, ничтожил племена ..." І пагрозы: "Всё русскому мечу подвластно", "На негодующий Кавказ поднялся наш орел двуглавый". І яшчэ: "Поникни снежною главой, смирись, Кавказ: идет Ермолов!" Дарэчы, апошнія радкі пра Ярмолава закрэнулі У.Маякоўскага, які пэўны час быў прыхільнікам закліку " скінуць Пушкіна з карабля сучаснасці" і ў гэтай сувязі зазначыў (Полн. собр.соч., т.12, 1959, с.435): "як жа на Каўказ перадаць гэтыя радкі, якія ўсхвалялі расейскага генерала, заняволніка Грузіі, у імя існавання адзінай, непадзельнай царскай Расеі?"

З пільнай, неаслабнай увагай сачыў Пушкін, як царызм душыў польскае паўстанне 1830 - 1831 гг., і, як існы вялікадзяржаўнік, блізка да сэрца прымаў няўдачы расейскіх войскаў. 1 чэрвеня 1831 г. у лісце да П.А.Вяземскага Пушкін паведамляе яму некаторыя падрабязнасці пра бітву пры Астраленцы (14 траўня), пра тое, як па-геройску паводзіў сябе польскі галоўнакамандуючы Ян Скржынецкі: "ён, ранены ў плячо, выпусціў з рук палаш і сам зваліўся з каня, уся ягоная світа кінулася да яго і зноў пасадзілі на каня. Тады ён заспяваў "Ешчэ Польска не згінела", і світа яго пачала паўтараць ..." І далей: "Усё гэта добра ў паэтычных адносінах. Але ўсё-такі іх трэба задушыць, і наша марудлівасць выклікае пакуту". Вось ён які, Пушкін ...

Затое як акрыяў паэт, калі даведаўся, што "Польши участь решена ...": "Победа! Сердцу сладкий час! Россия! Встань и возвышайся! Греми, восторгов общий глас! .." На ўрачыстасць нават выклікаецца цень продкаў: "Восстав из гроба своего, Суворов видит плен Варшавы; вострепетала тень его от блеска им начатой славы!" Гэта той самы Сувораў, які ў 1795 г. "заліў беларускую зямлю крывёю" (У.Арлоў), задушыў паўстанне Касцюшкі, а крыху раней — паўстанне Пугачова.

У паэме "Медный всадник" "апошні пясняр Імперыі" апраўдвае захопніцкую палітыку цара. На толькі што заваёваных землях Фінскага заліва стаіць Пётр Першы і думае: "Отсель грозить мы будем шведу, здесь будет город заложен назло надменному соседу. Природой здесь нам суждено в Европу прорубить окно, ногою твердой стать при море". Радок "в Европу прорубить окно" пасля стаў крылатым, пачаў ужывацца са значэннем "устанавіць дзелавыя і культурныя сувязі з еўрапейскімі краінамі" — насуперак яго сапраўднаму сэнсу, звязанаму з агрэсіяй ("грозить мы будем шведу", "ногою твердой стать при море").

Між іншым, гэты выраз сатырычна пераасэнсоўваецца ў п'есе Я.Купалы "Тутэйшыя". Усходні вучоны пытаецца ў Янкі Здольніка, ці не збіраюцца беларусы набыць сабе мора, "пробіць себе куда-нібудзь окошко — в Европу ілі Азію". Янка адказвае: "Нам і без мора, пане вучоны, хапае дзе тапіцца, як павее пошасцяй праз усходнія ці заходнія "окошкі".



Услед "вучоныя" запісваюць, што пра пашырэнне сваіх межаў, пра Дарданелы, Індыйскія моры і якія-небудзь "окошкі" беларусы не думаюць і думаць не жадаюць. Тут вяртаецца гэтаму выразу яго першасны, народны сэнс, звязаны з захопам чужых земляў. Менавіта такое ж разуменне выразу адбілася і ў вядомай гумарэсцы пра цара Пятра Першага і князя Меншыкава. Цар кажа: "Здесь нам природой суждено в Европу прорубить окно! А может, еще и в Азию прорубим!" А князь: "На два окна занавесочек не хватит!" (З гісторыі, аднак, вядома, што хапіла ...)

Згаданы раней папулярны прадстаўнік дзекабрысцкага руху П. Песцель рашуча выступаў за тое, каб беларусаў і маларосаў "за сапраўдных расіян лічыць і ад гэтых апошніх ніякімі асобнымі назвамі не аддзяляць". Гэтыя думкі падзяляў і Пушкін. Пра беларусаў ён пісаў: "Народ, издревле нам родной". "Ну што паробіш, быў Пушкін дзяржаўнікам, імпершчыкам", — так каментуе гэтыя пушкінскія словы С.Букчын у артыкуле "Пушкін і Лукашэнка" (Свабода, 14.10.1997).

Адносіны паэта да ўкраінцаў добра выяўляюцца пры чытанні паэмы "Полтава". Мазепа, гэты, як пісаў прафесар В.Антановіч, "дужа шчыры і гарачы патрыёт Украіны, які заўжды дбаў пра поўную незалежнасць свайго краю", паказаны ў паэме як "изменник русского царя", "злодей", "Иуда". Паводле Пушкіна, "забыт Мазепа с давних пор; лишь в торжествующей святыне раз в год анафемой, грозя, гремит о нем собор". Але сёння на Украіне не лічаць Мазепу здраднікам і аддаюць яму належнае.

Выказаныя тут думкі не змяншаюць нашай агульнай павагі да вялікага расейскага паэта — сына сваёй эпохі. Але трэба бачыць не толькі адзін бок медаля. Што было, тое было. З песні слова не выкінеш.

**Іван Лепешаў,**
**прафесар Гарадзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, доктар філалагічных навук, г.Гародня.**



# ФОНД ПАМЯЦІ НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ



Заснаваны ў палове верасня 1997 года ў Канадзе Выканаўчым Камітэтам Каардынацыйнага Камітэта Беларусаў Канады. Ахвяры на Фонд прызначаны на дапамогу студэнтам, якіх урад Беларусі выключае з універсітэтаў за тое, што яны бяруць удзел у дэманстрацыях у абарону Беларусі, за тое, што яны гавораць па-беларуску, што яны далучаюцца да Беларускага Народнага Фронту і змагаюцца за незалежнасць Беларусі.

21 верасня 1997 года ў Таронта адбыліся памінальныя ўрачыстасці ў гонар Паэткі. Ахвяры на: ФОНД ПАМЯЦІ НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ злажылі:

| | |
|---|---|
| Раіса Жук-Грышкевіч (Бэры) | 1.000.00 дал. |
| Івонка Сурвіла (Атава) | 200.00 дал. |
| Элеонара Пітушка | 18.00 дал. |
| Надзя Баран | 20.00 дал. |
| Ліда Целеш | 10.00 дал. |
| Вера Радэк (Ніягара Фолс) | 10.00 дал. |
| Барыс Кірка (Ніягара Фолс) | 10.00 дал. |
| Раман Лаценькаў | 2.00 дал. |
| Юры й Ольга Непомняшы | 5.00 дал. |
| Петронак Юля | 10.00 дал. |
| Раман Кардонскі | 5.00 дал. |
| Арсень Монід (Гамільтон) | 200.00 дал. |
| Е.К. (Б.К.) | 10.00 дал. |
| Каранеўскі Кастусь (Садбуры) | 30.00 дал. |
| Мікола Буцько (Садбуры) | 20.00 дал. |
| Віталь Мілянцевіч (Аустралія) | 200.00 дал. |
| Ніна Шапараў (Оўквіл) | 250.00 дал. |
| Б. і А. Даніловіч (ЗША) | 136.76 дал. |
| Ганна і Уладзімір Русакі (ЗША) | 68.74 дал. |
| Ул. Набагез (ЗША) | 139.14 дал. |
| А. Маркевіч (Ашава) | 50.00 дал. |
| В. Кажан (ЗША) | 69.40 дал. |
| К. Акула (Таронта) | 55.00 дал. |
| Галіна Русак (ЗША) | 139.74 дал. |
| Паўла Бурдзь (Вініпег) | 50.00 дал. |
| Барыс Рагуля (Лондан Ант.) | 250.00 дал. |
| Уладзімір Бельмач (Манрэаль) | 50.00 дал. |
| Разам канадскіх даляраў | 3 058.78 |

31 снежня, 1997 году — на банкавай кніжцы — 3 061. 45 кан. дал.

**1998 год**

24 сакавіка, 1998 г. сп. Г.Шэйпак з Вікторыі, Аўстраліі прыслаў на Фонд Памяці Натальлі Арсеньевай чэк на 550.00 аўстралійскіх даляраў з далучаным аркушам ахвярадаўцаў;

| | | |
|---|---|---|
| 1. сп.А.Барысевіч | дал.аўстрал. | 40.00 |
| 2. сп-ства О.А.Кукелі | дал. аўстрал. | 50.00 |
| 3. В.Р. Шэйпакі | дал.аўстрал. | 300.00 |
| 4. Ш.Т. Лашук | дал.аўстрал. | 50.00 |
| 5. А. Груша | дал.аўстарл. | 20.00 |
| 6. А. Шнэк | дал.аўстрал. | 20.00 |
| 7. І. Яшчэнса | дал.аўстрал. | 20.00 |
| 8. У. Сідлярэвіч | дал.аўстарл. | 50.00 |

Разам — дал. аўстрал. 550.00 Канад. даляраў — 515.40

19.06.98.
Зоя Жалязоўская (Бельгія) кан.дал. 100.00

У канцы чэрвеня, 1998 г. на канадскім "аккаўнце) ёсць 3 683.36 кан.дал.

Плюс на банкавым конце ў амерыканскіх далярах:

| | |
|---|---|
| Беларускі Дабрачынны Траст ( Лондан, Англія) | 500.00 |
| Аляксей Каўка (Масква) | 15.00 |
| Каця Вініцкая (Лос Анжалес) | 200.00 |
| Мікола Латушкін (Чыкага) | 30.00 |
| Э. Маркоўская | 20.00 |

Разам у амерыканскіх далярах 765.00 на асобным US банкавым конце.

14 красавіка, 1998 , сп-ня Вера Рамук прыслала ад Арганізацыі Беларускае Моладзі ў Ілліной, з спадчыны **Надзеі Градэ-Куліковіч — 4 000.00 амерыканскіх даляраў.**

Разам у амер. далярах у канцы чэрвеня, 1998 на конце ёсць: 4 774.32.

Управа Фонду, у складзе: Раісы Жук-Грышкевіч, Івонкі Сурвілы і Галіны Русак, шчыра дзякуе ахвярадаўцам і заклікае беларускае грамадства ахвярамі на **ФОНД** аддаць пашану памяці **Паэткі — Аўтаркі гімну "Магутны Божа" — і гэтым самым дапамагчы моладзі пераследаванай** урадам Беларусі за беларускую вызвольную дзейнасць.

Чэкі - ахвяры на **Фонд Памяці Наталлі Арсенневай** просім выпісваць
на: Raisa Zuk-Hryskievic (In memory of N. Arsennieva)
і слаць на адрас: Dr. R. Zuk - Hryskievic
54 Mary St.
Barrie, Ont. L4N 1T1

Згары шчыра дзякуем. Жыве Беларусь!

За УПРАВУ ФОНДУ ПАМЯЦІ НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ
**Раіса Жук - Грышкевіч**, Старшыня Фонду.

# Фальсіфікацыя гісторыі горада

Паважаная рэдакцыя, я звяртаюся да Вас з просьбай надрукаваць некалькі радкоў аб тым "беспрэдзеле" які адбываецца ў горадзе Жодзіна (а дзе яго няма?). Справа вось у чым. Сёлета споўнілася 310 год, як першы раз упамянулася назва цяперашняга горада Жодзіна. Аб гэтым сведчаць і звесткі ў гістарычнай энцыклапедыі і часопісе "Беларуская мінуўшчына" за 1997 г. №6. Аб гэтым сведчыць і мая маленькая кніжачка "Жодзінская хроніка".

Гарадская вертыкаль вырашыла адзначыць гэтую дату і нават пад ціскам грамадскасці аб'явіла другі раз "конкурс" на лепшую выяву герба горада, але ён, як і першы, не адбыўся. Вертыкалі патрэбен герб,



БелАЗ. Адміністрацыйны корпус

дзе быў бы руль, ці кола, ці комін, ці шпулька. Уся гісторыя ў іх звязана з кастрычніцкім пераваротам.

Але свята патрабуе грошай, а дзе іх узяць?! І вось знайшлі выйсце звязаць гэтае свята з 50-годдзем БелАЗа. Кепска тое, што 50 год БелАЗу было ў 1997 годзе аб чым сведчаць шматлікія дакументы. У мяне акрамя іх ёсць медаль з бронзы на якім выбіта "35 год БелАЗу (1947-1982г.г.)". Узнікае пытанне чаму БелАЗ ідзе на гэта, я маю на ўвазе фальсіфікацыю гісторыі горада і прадпрыемства? Адказ хаваецца не глыбока. У гэтым годзе споўнілася 60 год дырэктару завода і вось было задумана трайное свята. 50 год БелАЗу прагучыць, прыедзе прэзідэнт, мо пакрапае зорны дождж, на дырэктара, вертыкаль, залатаюць дзіркі ў асфальце, мо што падкіне воблаcць. Хто ў накладзе? Ніхто. Відовішч і хлеба. Але агортвае сум за тое як прыхаць аднаго ці двух чалавек, робіць тое што захоча, як нават гісторыю горада можна падагнаць пад дзень нараджэння чыноўніка. Усе пра гэта ведаюць, але маўчаць, што зробіш? Вельмі Вас прашу даць некалькі радкоў аб гэтым.

*З павагай да Вас Алесь Каранеў выдатнік народнай адукацыі настаўнік гісторыі г.Жодзіна.*

# Запрашаем у старадаўню Вільню

Восьмы год у Віленскім педагагічным універсітэце на факультэце славістыкі працуе кафедра беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры. У сістэме беларускай адукацыі ў Летуве яна займае цэнтральнае месца і на сёння з'яўляецца навукова-метадычным цэнтрам, які мае сталыя кантакты з шэрагам навучальных устаноў, грамадскіх арганізацый Летувы, Беларусі і іншых краін. Найбольш цеснае супрацоўніцтва наладжана з Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэтам імя М.Танка, Гомельскім дзяржаўным універсітэтам імя Ф.Скарыны, Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў, Варшаўскім (Польшча) і Клагенфурцкім (Аўстрыя) універсітэтамі, даследчым Інстытутам гуманітарных навук у Нью-Ёрку (ЗША) і інш.

Акрамя асноўнага кірунку сваёй дзейнасці — падрыхтоўкі спецыялістаў для беларускіх навучальных установаў Летувы — кафедра актыўна распрацоўвае навучальныя праграмы і метадычныя дапаможнікі, арганізоўвае міжнародныя навуковыя канферэнцыі, удзельнічае ў распрацоўцы міждзяржаўных пагадненняў у галіне адукацыі, займаецца навуковымі даследаваннямі памежнага рэгіёна.

Нашы выпускнікі працуюць не толькі ў Віленскай беларускай гімназіі і пачатковых класах г. Вісагінаса, але і ў летувіскіх сродках масавай інфармацыі, Пасольстве Рэспублікі Беларусь, выкладаюць беларускую мову ў школах Менска, Ліды, Віцебшчыны, працягваюць вучобу ў магістратуры.

Сёлета факультэт славістыкі дае жыхарам Беларусі ўнікальную магчымасць атрымаць вышэйшую адукацыю па спецыяльнасці беларуская філалогія за мяжой, — у адной з самых прэстыжных ВНУ Летувы — Віленскім педагагічным універсітэце. Тэрмін навучання — 4 гады. Акрамя названай спецыяльнасці студэнты змогуць выбраць дадаткова яшчэ адну: расейская філалогія, польская філалогія, журналістыка, методыка пачатковага навучання, гісторыя культуры (5 гадоў).

Навучанне завочнае платнае. Набор будзе ажыццяўляцца без уступных экзаменаў. На тэрыторыі Беларусі дыплом мае юрыдычную сілу.

Пад час вучобы студэнты змогуць атрымаць льготныя візы, папрацаваць у выдатных архівах і бібліятэках Летувы, пазнаёміцца з мовай і культурай народа - суседа, прыняць удзел у культурным жыцці беларускай дыяспары. Можна будзе таксама паспрабаваць свае сілы ў беларускіх праграмах радыё і тэлебачання, газетах Летувы. Урэшце — паблукаць па старажытнай Вільні і палюбавацца на славутыя цэрквы і касцёлы, спазнаць яе беларускія старонкі, а, значыць, і ўласную культуру і гісторыю.

А галоўнае — паслухаць лекцыі вядучых навукоўцаў - гуманітарыяў, сустрэцца з вядомымі культурнымі дзеячамі Летувы , Беларусі і замежжа.

Па больш падрабязную інфармацыю запрашаем звяртацца непасрэдна да прыёмнай камісіі па тэлефоне ў Баранавічах 8-01634-70503, у Вільні — 8 - 103702 - 725801, 731841.

***Лілея Плыгаўка, заг. кафедры беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры ВПУ, доктар філалогіі, член-кар.МАН.***

**ВІЛЕНСКІ ПЕДАГАГІЧНЫ УНІВЕРСІТЭТ**

**па конкурсу атэстатаў набірае студэнтаў на 1 курс факультэта славістыкі па спецыяльнасцях:**

*беларуская мова і журналістыка
*беларуская і руская мова і літаратура
*беларуская мова і літаратура і гісторыя культуры
*беларуская мова і методыка пачатковага навучання

**Навучанне платнае.**
**Форма навучання: завочнае ( 5 г.).**
**Прыём дакументаў - да 1.09.98 г.**

**1. Атэстат (копія) альбо дыплом вышэйшай школы (выпіска).**
**2. Медыцынская даведка.**
**3. 4 фотакарткі (3х4).**
**4. Выпіска з працоўнай кніжкі (калі ёсць).**

**Дакументы можна выслаць на адрас:**

**Baltarusių kalbos, literatūros bei etnokultūros katedra**
**Vilniaus pedagoginis universitetas**
**Studentų g. 39-527**
**2034 Vilnius**
**LIETUVA**

тэл.: 72 58 01, 73 18 41
тэл. у Баранавічах - 8-01634-70503

*Рэдактар Станіслаў Суднік*

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная рада:*
Генадзь Бураўкін — старшыня, Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі, Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля, Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

*Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 24. 08. 98 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 1890.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.